№ 48 (3891)

24 чэрвеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

НАРЭШЦЕ!



## 3 турмы — дахаты

# Праваабаронца Алесь Бяляцкі выйшаў на свабоду па амністыі

(Інтэрв'ю з ім на 2-й стар.)

БЛІЦ

***Уся дэмакратычная грамадскасць вітала выхад на волю вядомага праваабаронцы, намесніка старшыні Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Алеся БЯЛЯЦКАГА. У сваіх каментарыях эксперты адкрыта гавораць, што гэтая падзея — крок у накірунку нармалізацыі стасункаў нашай краіны з цывілізаваным светам. Але за кратамі застаюцца іншыя палітвязні. Таму сёння мы вырашылі інтэрв'юіраваць задаць адно пытанне:***

## Ці памілуе Аляксандр Лукашэнка тых, каго міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць беларускімі палітвязнямі? Ці можна разлічваць на тое, што беларускія ўлады бліжэйшым часам і іх выпусцяць на волю?

**Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

— Мне падаецца, што хутчэй за ўсё астатніх палітвязняў не вызваляць. Хаця калі сыходзіць з элементарнай логікі, дык навошта тады было адпускаць аднаго Бяляцкага? Даўно цягнуцца кулуарныя размовы аб тым, што трэба неадкладна вызваліць усіх палітвязняў для нармалізацыі стасункаў з Еўрасаюзам. Тым больш што і чарговыя выбары наперадзе...

**Міхаіл ЧЫГІР, прэм'ер-міністр Беларусі (ліпень 1994-га — лістапад 1996 года):**

— Было б добра, калі б да канца ў такім пытанні прысутнічала логіка. Было б толькі жаданне адпусціць людзей на волю, а ўжо з якой фармулёўкай — гэта не самае галоўнае. Хутчэй бы ўсе выйшлі!

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, лідар кампаніі "Гавары праўду!":**

— І для Лукашэнкі, і для ўсяго чалавецтва абсалютна зразумелым і правільным стала б вызваленне людзей, якія нізашто сядзяць у турме. Гэта дало б магчымасць весці перамовы не толькі пра крэдыты, якіх хутчэй за ўсё ўжо не будзе, але пра будучыню Беларусі. Цяпер у нас рэальная пагроза пазбаўлення незалежнасці. Не час памятаць пра нейкія асабістыя крыўды, пра тое, як Мікола Статкевіч крыва ўсміхаўся, кажучы пра Лукашэнку. Гэта шлях у нікуды. Замест кроку наперад мы зноў будзем таптацца на месцы і чакаць "залатога батона".

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":**

— Мне падаецца, што вызваленне ўсіх палітвязняў павінна стаць цалкам верагоднай падзеяй. На ўзроўні інстынкту самазахавання Лукашэнка сам мусіць разумець, што цяпер, як ніколі, трэба знайсці любыя магчымасці, каб сябраваць з Еўрасаюзам. Падзеі ва Украіне даюць падставы ўстрымацца ад канфрантацыі. Атрымаецца ці не атрымаецца ў Расіі з Данбасам, яна усё ж будзе спрабаваць дабіцца свайго па ўсім перыметры мяжы. Паўднёвая Асетыя, Прыднястроўе, Абхазія з'яўляюцца таму сведчаннем. Расійскі сцэнарый можа ўключыцца і тут, калі яшчэ не ўключыўся. Можа, таму Лукашэнка цяпер спрабуе перакінуць нейкі мосцік да еўрапейцаў. Да таго ж ён сам сказаў нядаўна, што на лядовыя палацы грошай больш няма. Значыць, ёсць патрэба ў заходніх крэдытах. Логіка падказвае, што максімум праз некалькі дзён трэба адпускаць усіх палітвязняў.

**Анастасія КАПУСЦІНА, першы сакратар Партызанскай раённай арганізацыі БРСМ г.Мінска:**

— Я не ведаю, што вам сказаць. Я не цікаўлюся палітыкай... Займаюся ў асноўным справамі моладзі. Я чытала, што Бяляцкага выпусцілі, але нічога не магу вам адказаць на ваша пытанне.

**Любоў ЛУНЁВА.**

***P.S.*** *Калі нумар газеты ўжо быў падрыхтаваны да друку, у рэдакцыю патэлефанавала Анастасія Капусціна і папрасіла не даваць яе каментарый. Мы падумалі, што яна нарэшце вызначылася з пазіцыяй і вырашыла прапанаваць разгорнуты адказ. Але дадаткова яна нічога не сказала, таму яе званок мы палічылі несур'ёзнай нагодай, каб зрываць графік выхаду газеты.*

ЛІЧБА ДНЯ

## З пачатку года свініна ў Беларусі падаражэла ў паўтара раза

У Мінску цэны на свініну выраслі яшчэ больш.

У маі сярэдняя цана за кілаграм свініны без косткі ў мінскіх крамах склала ў сярэднім 111 тыс. рублёў, павялічыўшыся ў параўнанні з пачаткам года на 61,1 працэнта.

КРЫМІНАЛ

## За ліпавыя бальнічныя будуць адказваць 7 чалавек

У Магілёве ўзбуджана 6 крымінальных спраў у дачыненні да грамадзян, якія падалі па месцы працы фіктыўныя бальнічныя. Да крымінальнай адказнасці прыцягнуты і доктар, які гэтыя бюлетэні выпісваў.

Справа ў тым, што пяцярым мужчынам і адной жанчыне падробленыя лісткі непрацаздольнасці выпісаў адзін і той жа доктар. З кожнага ўяўнага хворага за свае паслугі ён атрымліваў па 20—30 долараў. Некаторыя "пацыенты" бралі бальнічны на некалькі дзён, а іншыя прасілі выпісаць фіктыўны лісток на 20 дзён.

Доктар, які выдаў ліпавыя бальнічныя, будзе прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за хабарніцтва. 120 ці 180 долараў, на якія ён "разжыўся", могуць каштаваць яму некалькіх гадоў турмы. У дачыненні да грамадзян, якія звярнуліся да яго, распачаты крымінальныя справы па арт.380, ч.1 КК (падробка, выраб, выкарыстанне або збыт падробленых дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў).

ПАД ГРАДУСАМ!

## Лета вернецца напрыканцы тыдня

*Сіноптыкі абяцаюць, што к выхадным пацяплее да +26*

*"А пакуль неабходна пераадолець псіхалагічны халаднавата-дажджавы рубеж,* — адзначыў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.** — *Такое паніжэнне тэмпературы ў чэрвені не рэдкасць для Беларусі".*

Паводле слоў сіноптыка, у аўторак па-ранейшаму вільготнае халаднаватае паветра з паўночнага захаду кантынента будзе фарміраваць халаднаватае дажджлівае надвор'е. Днём плюс 13—18°С, па поўдні да плюс 20°С.

Халаднавата будзе і ў сераду. Тэмпература паветра ноччу плюс 3—10°С, днём плюс 12—18°С, па поўдні да плюс 20°С. Пераважна па паўночнай палове кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах навальніцы.

У чацвер днём да паўночна-заходніх межаў падыдзе чарговы франтальны раздзел, і зноў на большай частцы тэрыторыі пройдуць дажджы. У асобных раёнах навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 2—9°С, днём плюс 14—21°С.

Паводле слоў Рабава, *"на наступныя выхадныя чакаецца некаторае паляпшэнне надвор'я: паўночны вецер зменіцца паўднёва-заходнім, і з Цэнтральнай Еўропы стане паступаць больш цёплае паветра".* Таму ў суботу ў разгар дня плюс 18—24°С, па захадзе Брэсцкай і Гродзенскай абласцей паветра прагрэецца да плюс 26°С. У нядзелю днём яшчэ на пару градусаў стане цяплей.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Трусы и кеды

**Для того, чтобы продемонстрировать истинную суть Таможенного союза Беларуси, Казахстана и России, понадобилось совсем немного — кружевные трусы.**

**С 1 июля их ввоз и производство на территории таможенной "тройки" запрещены. Инициативу пролоббировали производители белья из хлопка и дорогого высококачественного белья, объяснив свои старания заботой о здоровье женщин. А высокие мужи трех государств инициативу поддержали и подписали.**

**Чиновники посчитали возможным решать, какие трусы следует носить женщинам их стран! Обхохочешься!**

**Сначала эта новость воспринималась как анекдот, потом — как досадный курьез, но вот уже на носу день, когда запрет реально вступает в силу. И его никто не отменил, не высмеял, не дезавуировал. Значит, теперь мы по факту оказываемся в новой реальности — той, где государство считает возможным вместо нас решать, какие трусы нам носить, что нам есть и что пить.**

**Есть, конечно, в мире страны и покруче. Например, Свазиленд. Там более 20 лет правит король-многоженец Мсвати III, который женщинам своей страны носить трусы запретил вовсе. Высочайшим королевским указом! Потому что посчитал этот вид нижнего белья нетрадиционным и ненужным дамам своего государства. Он ведь король и, понятное дело, лучше знает, что женщинам его страны нужно, а что не нужно. И теперь каждый страж закона этого маленького южноафриканского государства, который заметит правонарушение — женщину в трусах, должен крамольный предмет гардероба с нее сорвать и уничтожить.**

**Вот такие порядки! И мы, между прочим, уверенно движемся по пути Свазиленда. В Госдуме России уже лежит новый законопроект, которым предлагается включить в регламент Таможенного союза новые медицинские ортопедические требования к обуви. Потому что, как известно, обувь с плоской подошвой (кеды и балетки), а также обувь на высоком каблуке не полезна для ног. От нее развивается плоскостопие, деформация мышц голени, варикоз нижних конечностей, хроническая венозная недостаточность и так далее, и тому подобное…**

**Никакого открытия в этом перечне неприятных болезней, как вы понимаете, нет. Во всем мире и про высокий каблук, и про плоскую подошву все всё прекрасно знают. Однако запрещать все-таки не додумались. А вот у нас додумались! И теперь наша перспектива — носить самую полезную на свете обувь — уродливую ортопедическую.**

**Что находится в очереди на попадание в запретные списки, фантазировать можно уже сейчас. Но абсолютно точно: на трусах и кедах наши чиновники не остановятся, так как в деле регламентов и запретов для них главное начать, переступить психологический барьер — и дальше не удержишь.**

**Краски для волос — портят волосы и запутывают милицию, шторы на окнах — причина пожара и препятствие наружному наблюдению, мясо — вредно, особенно в условиях дефицита свинины… А еще не дураки были наши предки, когда запрещали женщинам носить брюки и, наоборот, заставляли их надевать платки. Платочек на голове — это очень полезно: и от солнечного удара защита, и от отита, и от снега, и от дождя. К тому же если ввести такое правило, то оно будет соответствовать и православной, и мусульманской традиции. Но самое главное — как повысятся производственные показатели у тех, кто выпускает юбки и платки! А сегодня у них плохи дела, очень плохи…**

**Кстати, лично я платки люблю. И против белья из хлопка ничего не имею. Очень высокий каблук вообще не ношу, потому что в такой обуви можно эффектно стоять, но не ходить. Однако дурные, навязанные сверху правила — касаются они платков, трусов или высоты каблука — это узаконенный, легализованный абсурд. Потому что уж как-нибудь без помощи государства люди сами в состоянии решить, что им носить, что им есть и что пить.**

**Даже если некоторые вожди рядом с женщиной на высоких каблуках чувствуют себя убогими карликами. Даже если у кого-то из них аллергия на кружевное белье. И даже если им очень нужно разгрузить склады, забитые отечественной продукцией немаркой коричнево-серенькой расцветки. В Беларуси ведь пошли даже дальше того, чтобы законодательно определять, какие должны быть трусы, а какие — каблуки. У нас теперь некий лысый дядя будет определять, какие товары белорусы должны покупать в белорусских магазинах, а какие — нет.**

**Например, этот дядька уже решил, что 85% ассортимента должно быть отечественного производства. Из-за этого импортные товары спешно убирают с прилавков. Если вы любили украинские конфеты — забудьте, потому что лысый дядя любит "Коммунарку"; хотели холодильник "Индезит" — придется согласиться на "Атлант", потому что этому, лысому, именно минский холодильник продать нужно.**

**"Купляйце беларускае!", как говорится. Поскольку нигде в мире по таким ценам его не покупают, придется покупать самим белорусам. И даже если не хотим — государство заставит, оно ведь у нас сильное…**

**XXI век на дворе. А вот мы на "правильном" пути в Свазиленд, в дремучесть и самодурство.**

## Як Коста-Рыка нарабіла ў Бразіліі сенсацый

Чэмпіянат свету па футболе, які гэтымі днямі праходзіць у Бразіліі, ужо можна назваць першынствам па сенсацыях.

Групу, у якую трапілі зборныя Уругвая, Італіі, Англіі і Коста-Рыкі, называлі "групай смерці". Эксперты з разумным выразам твару прадказвалі, хто ж з першых трох каманд "трэці лішні".

Пра Коста-Рыку, безумоўна, ніхто нават і не ўспамінаў — зборную адразу ж занеслі на задворкі турнірнай табліцы. А яна ўзяла і нарабіла сенсацый. Спачатку гучна перамагла Уругвай (3:1), а затым і італьянцаў (1:0). І такім чынам датэрмінова выйшла у плэй-оф. Англічане ўжо збіраюцца дадому, а за другую пуцёўку пазмагаюцца зборныя Уругвая і Італіі. Вось вам і Коста-Рыка!

**Алесь СІВЫ.**

### Як гуляюць?

*Усе матчы першынства (без уліку ўчарашніх).*

**12 чэрвеня**
Бразілія—Харватыя — 3:1.

**13 чэрвеня**
Іспанія—Галандыя — 1:5, Мексіка—Камерун — 1:0.

**14 чэрвеня**
Калумбія—Грэцыя — 3:0, Уругвай—Коста-Рыка — 1:3, Чылі—Аўстралія — 3:1.

**15 чэрвеня**
Англія—Італія — 1:2, Кот-д'Івуар—Японія — 2:1, Францыя—Гандурас — 3:0, Швейцарыя—Эквадор — 2:1.

**16 чэрвеня**
Аргенціна—Боснія і Герцагавіна — 2:1, Германія—Партугалія — 4:0, Іран—Нігерыя — 0:0.

**17 чэрвеня**
Бельгія—Алжыр — 2:1, Бразілія—Мексіка — 0:0, Гана—ЗША — 1:2.

**18 чэрвеня**
Аўстралія—Галандыя — 2:3, Іспанія—Чылі — 0:2, Расія—Паўднёвая Карэя — 1:1.

**19 чэрвеня**
Камерун—Харватыя — 0:4, Калумбія—Кот д'Івуар — 2:1, Уругвай—Англія — 2:1.

**20 чэрвеня**
Італія—Коста-Рыка — 0:1, Швейцарыя—Францыя — 2:5, Японія—Грэцыя — 0:0.

**21 чэрвеня**
Аргенціна—Іран — 1:0, Германія—Гана — 2:2, Гандурас—Эквадор — 1:2.

**22 чэрвеня**
Бельгія—Расія — 1:0, Нігерыя—Боснія і Герцагавіна — 1:0, Паўднёвая Карэя—Алжыр — 2:4.

ПАМЯЦЬ

***Шаноўныя чытачы! Сёння мы завяршаем публікацыю серыі матэрыялаў (стар.6), прысвечаных 90-годдзю з дня народзінаў вялікага сына Беларусі — народнага пісьменніка Васіля Уладзіміравіча БЫКАВА. Але не заканчваецца Год Быкава, і заўтра, і вечна ў памяці і сэрцы людскім застанецца імя Чалавека, які невымернай любоўю і магутным талентам так узвысіў і ўславіў дарагую нашу Радзіму.***

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Жыць па ПРАЎДЗЕ!

*Так, мы, супрацоўнікі газеты "Народная Воля", хочам жыць па* ***ПРАЎДЗЕ****.*

*Спадзяёмся, што такой пазіцыі прытрымліваюцца мільёны сумленных людзей.*

*Давайце разам адстойваць* ***ПРАЎДУ****. Чым больш падпісчыкаў будзе ў "Народнай Волі", тым мацнейшым будзе голас газеты. Голас* ***ПРАЎДЫ****.*

*Напрыканцы гэтага тыдня заканчваецца падпіска на II паўгоддзе.* ***Не спазніцеся, калі ласка.***

*Можаце дапамагчы таму, хто хацеў бы чытаць "Народную Волю", але мае фінансавыя цяжкасці, — дапамажыце!*

*Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных падпісных пунктах "Белсаюздруку".*

**Вы — з "Народнай Воляй", "Народная Воля" — з Вамі!**

## ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

*Уважаемый главный редактор!*

*Искренне благодарим Вас за предоставленную возможность рассказать людям о нашей сложной жизненной ситуации. Являясь убежденными сторонниками демократических изменений в стране и, соответственно, многолетними читателями "Народной Воли", хотим выразить благодарность всему редакционному коллективу за все те публикации, которые помогают простым гражданам найти опору в жизни. Как и в нашем случае, "Народная Воля" часто становится последней инстанцией для "простых" людей, столкнувшихся с несправедливостью, произволом государства, его чиновников.*

*Возвращаясь к ситуации с нашим выселением из общежития ("Народная Воля", 15.04.2014), хочется отметить, что оно было бы безусловно законным (или выглядело таковым), если бы действительно на наше место заселились работники завода, или молодые специалисты, или переселились жильцы из другого общежития, принадлежащего заводу (все это указывалось в исковых требованиях как аргумент в пользу выселения). Фактически же массово вселялись по ходатайствам сторонних организаций люди, не имеющие никакого отношения к заводу, в отдельных случаях предоставлялось жилье тем, кто уже получил квартиру. В блоке из двух комнат может проживать один человек либо семья из двух человек, и это при якобы существующей очереди работников завода на улучшение жилищных условий.*

*Из вышесказанного можно сделать логический вывод, что в отношении нас действуют с целью полного уничтожения, причем злоупотребляя служебным положением, находя во всем так называемый принцип целесообразности.*

*Уважаемый главный редактор! Будем Вам глубоко признательны, если Вы сочтете нужным возвратиться к нашей теме, так как после принятия Жилищного кодекса права граждан существенным образом ухудшились...*

*Наша ситуация типична в том, что многие граждане оказываются совершенно беззащитными, отстаивая свои права в суде... Четыре года длится наше противостояние с властью, причем это годы, когда у нас родились дети, которым мы должны уделять все свое внимание, давать любовь и заботу, помогать им найти свое место в жизни. А нас выселяют на улицу, руководствуясь лишь амбициями, не выбирая средств, не утруждая себя моральной стороной дела, чувствуя свою безнаказанность.*

*Нам очень сложно, но все же мы надеемся, что сможем справиться и выдержать данное нам испытание. Помогите нам, пожалуйста!*

**С уважением —**

**Виктор и Ольга ШКРОБОВЫ.**

# Восстановите справедливость!

Думалось, руководство Станкостроительного завода им.С.М.Кирова все же войдет в наше положение, прекратит выселение семьи с двумя малолетними детьми из общежития. Но...

Очередная бумага за подписью юриста О.М.Соловьевой свидетельствует о том, что никакого снисхождения к нам, бедным, никто и не намерен проявлять. Нам давалось несколько дней накануне Пасхи, чтобы забрать свое имущество из общежития, что по улице Малинина, в противном случае 23 апреля оно будет выставлено за порог.

Вопрос: куда забирать имущество, нажитое нами за 20 лет проживания в Минске, если нет никакой собственности, а наша съемная однокомнатная квартира с хозяйской мебелью — не резиновая? Но администрацию завода это не волновало — куда хотите, туда и забирайте!

Выброс нашего имущества на улицу не состоялся лишь по одной причине — успела выйти статья в "Народной Воле" о наших злоключениях, о выселении нас на улицу. Прочитав данную статью, руководство завода наконец-то взглянуло на развитие действий и событий уже не с колокольни заводского юриста госпожи Соловьевой, а как будто бы изменило свое отношение к нашей ситуации, как говорится, пошло с нами хоть на какой-то диалог. Свидетельство тому — администрация завода дала добро на регистрацию нашего ходатайства о заселении в общежитие. Оно было зарегистрировано как раз 24 апреля.

Но с тех пор прошло уже два месяца, и ровным счетом ничего не изменилось. Жилищная комиссия во главе с директором завода В.М.Шаппо не провела ни одного заседания. В конце мая Шаппо уволился. Плановое заседание жилищной комиссии перенесено на 25 июня.

Так как несколько плановых заседаний не были проведены, а завод прекращает свою деятельность через два-три месяца, мы уже начинаем думать о том, что наше ходатайство так и останется пылиться на полке, то есть все само сойдет на нет, а Шкробовы и на этот раз останутся ни с чем. К директору завода на личный прием не попасть, просто не записывает секретарь и все тут, как к Шаппо, так и к новому директору Д.Г.Леончику. Ждите, мол, заседания жилищной комиссии. Это не впервые. С нашим 80-летним отцом, который приезжал издалека, чтобы встретиться с директором незадолго до смерти мамы, секретарь вообще разговаривать не стала, в записи на прием отказала и бросила трубку (отец звонил с проходной).

Поэтому мы решили донести информацию о нас новому руководству завода через "Народную Волю". Зная о том, что ее читают высокопоставленные должностные лица, в том числе сам Александр Лукашенко, мы хотели бы обратиться с очередной петицией.

Как такое возможно, что в социально ориентированном государстве, коим позиционирует себя Беларусь, без веской на то причины так жестоко и нагло обходятся с добропорядочной, хорошей семьей, в которой двое малолетних детей?

**Уважаемые народные депутаты!** Как вы можете создавать законы, по которым детей по решению суда выкидывают на улицу прямо из роддома? Решение суда было принято, когда младшему сыну исполнилось всего 11 дней. Раньше детей не выселяли на улицу до трех лет. Как может существовать семья на съемных квартирах, когда мама не работает, так как находится в декретном отпуске по уходу за ребенком? Или вы считаете, что один отец может заработать столько денег, чтобы оплатить жутко дорогое в нашей стране съемное жилье (исходя из зарплат в Беларуси), коммунальные платежи и прокормить четыре рта? (Справки о доходах семьи были предоставлены в суд, но это ровным счетом ни на что не повлияло.)

Как можно выселять из общежития на улицу семью с детьми, если у них нет своего собственного жилья, им вообще некуда идти? Нас же не из служебной квартиры переселили в общежитие, а из общежития (последнего, считай, приюта, который может быть у людей) выселили на улицу! Мало того, по решению суда нас еще и выписали из общежития в никуда, то есть фактически сделали бомжами сразу четырех человек! В то время, когда мы заселялись в общежитие, у нас обоих была прописка в Минске, и это они предложили нам сюда перепрописаться на постоянно. А теперь мы остались ни с чем!

К слову, выписали нас в январе 2014 года, а узнали мы об этом только в пятницу 13 июня! Чисто случайно, из телефонного разговора с заведующей общежитием. Хотя еще осенью мы просили ее сообщить нам о выписке, чтобы куда-нибудь перепрописаться и не потерять очередь на жилье в исполкоме, где мы стоим уже 15 лет! Естественно, за эти полгода мы не раз виделись с администрацией общежития, с паспортисткой. У них есть наши контактные номера телефонов. Здесь просто нет слов! Их поступок говорит о многом!

**Уважаемые судьи,** те, кто вел наше дело! Как можете вы принимать к сведению только позицию истца, а наши доводы, факты и аргументы постоянно игнорировать? Как будто вы слышите то, что хотите слышать, как будто изначально уже определено, что завод в любом случае выиграет это дело, а простые люди, ответчики, будут раздавлены! Как мог главный судья страны господин Валентин Сукало "не заметить" грубейшие нарушения, допущенные судьей Зинаидой Красовской в судебном заседании от 11.03.2011, когда она выносила решение по нашему делу в марте этого года после обращения нами в Президиум Верховного Суда Республики Беларусь? Подобные нарушения фактически ведут к отмене судебного решения. Но честь мундира оказалась дороже. Обо всем этом было написано в предыдущей статье за 15.04.2014 — "Правовых оснований для выселения семьи Шкробовых не было". После всего этого хочется сказать: не дай Бог никому попасть в жернова белорусского правосудия!

**Уважаемый Александр Григорьевич!** Почему в стране сложилась такая ситуация (особенно в последние годы), когда на обращения граждан за помощью в любые инстанции, как правило, приходят одни отписки? Наш случай — очередное тому подтверждение. Почему в Беларуси во многих ситуациях совершенно не защищены дети — наше светлое будущее? Органы опеки и попечительства как следует не отстаивают права детей в суде, хотя это их прямая обязанность. Порой социальная незащищенность человека в нашем государстве сводит с ума. Никому до нас нет дела, куда бы мы ни обращались. А ведь именно из-за халатности в работе администрации завода произошла эта трагедия. Из комнаты в комнату жильцов общежития переселяли, договоров вовремя не перезаключали (не работала жилищная комиссия), не удосужились перезаключить и позже, нам же это вменили в вину и подали на нас в суд о выселении. А суд, не потрудившись детально разобраться в данной ситуации, выселил нашу семью на улицу. Это ли не абсурд?! Александр Григорьевич, просим Вас помочь разобраться в данной ситуации!

Трудно поверить, но после отклонения в наших интересах ходатайства администрации Ленинского района в сентябре прошлого года руководство завода даже слышать не хотело о нас. Заседание жилищной комиссии тогда по этому вопросу проводилось в отсутствие директора В.М.Шаппо с участием замдиректора Н.С.Шавейко и юриста О.М.Соловьевой. Причина неудовлетворения нашего ходатайства все та же: свободных мест в общежитии нет, а если и есть, то для высококвалифицированных специалистов. По поводу трудоустройства нас на завод ответ следующий: "У нас для Шкробовых нет никаких вакансий". Принципиальность отказа налицо!

Как уже было отмечено, инициатором этого выступили госпожа Соловьева и госпожа Шавейко (последняя в скором времени с завода уволилась).

Аналоги их действий можно найти, углубившись во времена сталинских репрессий. Но мы-то живем в XXI веке в социально ориентированном государстве! За что репрессируют нашу семью, а белорусские законы только способствуют этому?!

В исковых требованиях истец в лице Соловьевой указывал, что мы должны быть выселены из общежития, поскольку не являемся работниками завода и как лица, "самоуправно" занявшие блок в общежитии. Как все происходило на самом деле — об этом было подробно изложено в предыдущей статье.

Когда мы оспаривали решение суда и просили отсрочить исполнение решения на три года в связи с наличием на иждивении двух малолетних детей, госпожа Соловьева парировала это в суде следующими аргументами: свободных мест для проживания нет; у завода есть острая необходимость в заселении молодых специалистов; необходимость переселения 49 семей из общежития №2 в общежитие №1 на ул.Малинина; на заводе имеется очередь из шести семей, претендующих на расширение жилплощади.

Суды, выслушав аргументы Соловьевой, полностью проигнорировали наши доводы. Вторая же сторона медали показывала следующие факты:

1) Да, молодых специалистов в общежитие заселяли, но в небольшом количестве, так как всем известно, что завод имени Кирова с каждым годом сокращает объемы производства. Соответственно, если еще лет 10—15 назад на заводе работало несколько тысяч человек, то в последние годы их количество не превышает 200—300 человек. Свободные блоки и комнаты простаивают без жильцов по несколько лет. В собственные квартиры жильцов выезжало больше, чем заселялось.

2) Переселение жильцов из одного общежития в другое как бы на бумаге имеется, но за все эти годы ни одну семью из общежития на Малинина так и не переселили, а в 2012 году, наоборот, предлагали некоторым молодым семьям дополнительную жилплощадь. Хотя, повторимся, свободного жилья в общежитии на Малинина было достаточное количество. Почему переселение не осуществлялось? Да потому что в общежитии на Ботанической у семей по две команты по 18—19 квадратных метров каждая и сделан хороший ремонт. Никто добровольно на Малинина переселяться не захочет. Но именно по причине "переселения" суды отказывали нам в отсрочке.

3) Да, на заводе есть очередь из заводских работников на расширение жилплощади. Но очередь на станкостроительном заводе имеет свою особенность — она может годами стоять на месте, а тем временем администрация по ходатайствам завода заселяет в общежитие на Малинина работников сторонних организаций. Или же: шесть семей стоят на расширение, а в то же время 7—8 пустующих блоков и комнат простаивают месяцами.

4) Во-первых, нас активно выселяли, а другим не заводским работникам, уже проживавшим в общежитии, предоставляли блоки. Во-вторых, первичное заселение в общежитие на Малинина не заводских работников по ходатайствам сторонних организаций стало **массовым** именно в 2013 году, когда нашу семью с двумя малолетними детьми (у одного из которых была высокая температура, даже пришлось вызывать "скорую помощь") буквально вышвырнули на улицу. Где справедливость? Да, завод может парировать, что он имеет на это право, являясь собственником общежития. Но тогда Соловьева в суде должна была указать именно эту причину выселения: мол, не нравятся нам эти Шкробовы, не умеют пресмыкаться, кланяться, становиться на колени, плохо просят, — а не давить на суд вышеперечисленными пунктами об острой необходимости заселения молодых специалистов, о заводской очереди и т.п.

Кроме того, есть факты проживания жильцов в данном общежитии по несколько лет после получения ключей от собственных квартир. С разрешения администрации, конечно. Это уже ни в какие рамки не вписывается, даже если завод и собственник общежития.

Также имеются факты вселения не граждан РБ (не работников завода). Ходатайства с места работы, комитета по труду, администрации Ленинского района, органа опеки и попечительства — ни одно из них администрация завода (Е.С.Кодь, Н.С.Шавейко, О.М.Соловьева) не удовлетворила.

Логичного и рационального объяснения нашему выселению на улицу нет. Когда таким образом растаптывают и уничтожают семью, то речь идет только о принципе и диких необузданных амбициях людей с черствой душой.

25 июня 2014 года должно состояться очередное плановое заседание жилищной комиссии. Мы надеемся, что на этот раз оно все-таки состоится. Проводить его будет новое руководство завода — директор Д.Г.Леончик и его заместитель В.М.Приемко. Четыре долгих года длятся наши мучения и злоключения. Нам очень сложно, но мы не сломлены. В нас еще живет надежда, что все станет на свои места, что мы заселимся в наше родное общежитие и забудем об этом черном отрезке жизни.

Уважаемые Дмитрий Григорьевич и Виктор Михайлович! Христом Богом просим Вас, проявив человечность, положительно рассмотреть наше ходатайство и заселить нас снова в блок 609 общежития №1 на ул.Малинина!

**Виктор и Ольга ШКРОБОВЫ.**

*Минск.*

## Детей — и на улицу?!




## БІЗНЕС

### *Дарагія офісы*

*Сярэдні кошт прапановы на другасным рынку офіснай нерухомасці ў Мінску за год вырас на 24%, дасягнуўшы ў маі 2470 долараў за 1 кв.метр.*

Пра гэта паведаміла намеснік кіраўніка кампаніі "Твая сталіца. Нерухомасць для бізнесу" **Вольга Сянчук.**

Самыя нізкія цэны на офісы ў Заводскім раёне, самыя дарагія — у Цэнтральным і Савецкім. Уздоўж праспекта Незалежнасці кошт офіснага "квадрата" і зусім дасягае пікавых значэнняў — да 3500 долараў.

Як зазначыла намеснік кіраўніка кампаніі, усё большую цікавасць уяўляе першасны рынак Мінска, сярэдні кошт 1 кв.м на якім склаў у маі 2010 долараў. "Квадрат" у аб'ектах класа "В" каштаваў 2150 долараў, у офісах класа "С" — 1830 долараў.

## РЭЦЭПТ

### *Ад прышчэпак не адмовіліся*

Здавалася б, да эпідэмічнага сезона грыпу яшчэ далёка, аднак беларускія спецыялісты ўжо заявілі, што плануецца прышчапіць ад гэтага вірусу 763 тысячы мінчан (40% насельніцтва горада). Мяркуецца, што за кошт рэспубліканскага бюджэту прышчэпкі зробяць 13% гараджан, за сродкі мясцовага бюджэту — 19%.

Як адзначыла галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Мінска **Наталля Жукава,** дзякуючы маштабнай кампаніі па вакцынацыі ў апошнія два гады ў Мінску не было эпідэмічнага ўздыму захворвання на грып, таксама мінчане сталі менш хварэць на іншыя вірусы. Вакцынацыя прыносіць адчувальны эканамічны эфект. Падлічана, што кожны ўкладзены ў вакцынацыю долар прыносіць да 10 долараў эканоміі.

## СТАЛІЦА

### *Адабраць і падзяліць?*

*Намеснік кіраўніка Мінгарвыканкама **Ігар Карпенка** на пасяджэнні калегіі па ахове здароўя аб'явіў пра намер сталічных улад пазбавіцца ад ведамасных паліклінік.*

На думку чыноўніка, сістэма ведамасных паліклінік дзяржаўных прадпрыемстваў сябе зжыла.

— *Сёння ведамасныя паліклінікі не здымаюць праблемы медыцынскага абслугоўвання насельніцтва,* — заявіў Ігар Карпенка. — *Тыя, хто звяртаецца туды за амбулаторнай медыцынскай дапамогай, усё роўна застаюцца на абслугоўванні ў звычайнай гарадской паліклініцы. У выніку нагрузка на ўрачоў, якія працуюць у сістэме дзяржаўнай аховы здароўя, істотна не зніжаецца. "Прывілеяваныя" ж работнікі прадпрыемстваў па факце атрымліваюць гарантаваную дзяржавай бясплатную медыцынскую дапамогу ў падвойным аб'ёме.*

Праўда, прыкладаў, калі хтонебудзь звяртаўся па дапамогу ў заводскую паліклініку, а потым з той жа праблемай ішоў "правяраць" прафесіяналізм урачоў у раённую, Ігар Карпенка не прывёў. Ды такое і ўявіць сабе цяжка. Так што выснова чыноўніка, мякка кажучы, спрэчная. Сапраўдныя вытокі ініцыятывы, напэўна, у іншым.

Як паведаміў той жа Ігар Карпенка, дарагая апаратура ў ведамасных установах *"працуе не на поўную сілу", а "ў той жа Бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі УГД-апараты і іншае абсталяванне эксплуатуецца кругласутачна".* Няцяжка здагадацца, што дзяржава паклала вока на тое медыцынскае абсталяванне, што багатыя прадпрыемствы набывалі для сябе.

Дарэчы, мінчане ўжо маюць вопыт перадачы ведамасных медыцынскіх аб'ектаў на баланс горада. Напрыклад, некалькі гадоў таму гэта адбылося з паліклінікай Беларускай чыгункі па вуліцы Варанянскага. Але далёка не ўсе прадпрыемствы жадаюць расставацца з ведамаснай медыцынай. Да прыкладу, паліклініка медцэнтра МТЗ — гонар прадпрыемства, і наўрад ці працаўнікі завода будуць больш ахвотна ісці на працу, ведаючы, што аднаго з важных складнікаў "сацпакета" — абслугоўвання ва ўласнай установе аховы здароўя — з гэтага часу не існуе. Цікава і тое, што той жа МУС альбо КДБ па-ранейшаму маюць свае ведамасныя шпіталі і адмаўляцца ад іх не збіраюцца, хаця гэтаксама маглі б карыстацца паслугамі гарадскіх паліклінік і бальніц.

## З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### *Алесь БЯЛЯЦКІ:*

# «У мяне адчуванне, што тры гады прасядзеў па шыю ў брудзе»

*У мінулыя выхадныя нечакана выйшаў на волю праваабаронца Алесь БЯЛЯЦКІ, які ўчора распавёў журналістам некаторыя падрабязнасці свайго арышту і знаходжання за кратамі.*




### АСАБІСТАЯ СПРАВА

*4 жніўня 2011 года Алесь Бяляцкі быў арыштаваны па абвінавачанні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў. 24 кастрычніка таго ж года быў асуджаны да 4,5 года ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за "ўтойванне прыбыткаў у буйным памеры".*

*Праваабаронца сваёй віны не прызнаў, заявіўшы, што ўсе грошы з рахункаў ішлі на праваабарончую дзейнасць. Алесь Бяляцкі быў вызвалены па амністыі 21 чэрвеня 2014 года.*

— Сядзець за дэмакратычную Беларусь было ўнутрана лёгка, — *кажа праваабаронца.* — Барацьба за дэмакратыю патрабуе пэўных намаганняў і ахвяр, але дзякуючы вялізнай падтрымцы з волі я быў як за каменнай сцяной. Нішто не магло мяне прабіць. Я вельмі спадзяюся, што маё вызваленне — гэта толькі пачатак і ўсе астатнія палітзняволеныя таксама ў хуткім часе выйдуць на свабоду.

**— Алесь, на якіх падставах вас вызвалілі?**

— Мне выдалі даведку, у якой напісана, што падставай для вызвалення з'яўляецца Закон аб амністыі. Але ж у чым калізія: я з'яўляўся быццам бы злосным парушальнікам рэжыму і пад амністыю не падпадаў. Таму відавочна, што рашэнне аб вызваленні прымалася не на ўзроўні адміністрацыі калоніі. І для мяне было поўнай нечаканасцю! Зранку я пайшоў на працу, але ў 9 раніцы паклікалі да начальніка калоніі і абвясцілі: "Свабодны". Далі паўтары гадзіны на зборы, а затым пасадзілі на машыну "хуткай дапамогі" і адвезлі на чыгуначны вакзал у Бабруйску.

**— Калі вярнуцца да арышту ў 2011 годзе... Як вам сёння бачыцца тая сітуацыя?**

— Артыкул, паводле якога мяне судзілі, не мае ніякага дачынення да таго, чым мы займаліся. Цалкам палітычнае рашэнне, і судовы працэс гэта выразна паказаў. Яшчэ перад арыштам было зразумела, што наша праваабарончая дзейнасць выклікае вялікую занепакоенасць з боку КДБ, і пасля падзей 2010 года я фактычна быў пастаўлены перад выбарам: альбо з'язджаць за мяжу, альбо заставацца і адстойваць свой пункт гледжання. Я выбраў другое, мая пазіцыя засталася нязменнай. І тое, што зараз апынуўся на волі, не азначае, што змяніў свае погляды. Проста беларускія ўлады вымушаны ісці на пэўныя саступкі, каб нейкім чынам нармалізаваць адносіны з Еўропай.

**— А зараз не збіраецеся ў эміграцыю, як гэта зрабіў былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў пасля свайго вызвалення?**

— Не збіраюся — мне камфортна і дома, дзе наўкол свае людзі. Для мяне вельмі важная атмасфера беларускага грамадства — такога, якое яно ёсць. Калі выбіраешся на Захад, адчуваеш сябе не ў сваёй талерцы. Можа, ёсць сэнс там вучыцца, але жыць трэба на сваёй зямлі.

**— Вы сказалі пра свой маральны выбар адносна таго, ці з'язджаць за мяжу. А ці трэба было рабіць выбар, пісаць прашэнне аб памілаванні альбо не пісаць?**

— Выбару не было, бо я ніколі яго не напісаў бы. Хоць фармальна мне прапаноўвалі ў калоніі напісаць такое прашэнне два разы. Першы раз — у верасні 2011 года, калі выпусцілі на волю некалькі чалавек. Другі раз — пасля прэс-канферэнцыі Лукашэнкі, калі ён узгадаў мяне. І абодва разы я сказаў "не". Дарэчы, у калоніях створана такая сістэма, што табе на словах могуць нешта і не казаць, але падштурхоўваць да прыняцця рашэння іншымі дзеяннямі: дробнымі правакацыямі, абмежаваннямі... І такая атмасфера была да апошняй хвіліны.

**— За што вас рабілі "злосным парушальнікам"?**

— Маглі зрабіць за што заўгодна, і вось адзін цікавы прыклад. Мне штомесячна выпісвалі парушэнні рэжыму, але неяк забыліся пра свае "абавязкі" на тры месяцы. Затым схамянуліся і пачалі паляваць. У выніку ператрусілі торбу і знайшлі да чаго дачапіцца: маўляў, у мяне не тры шакаладкі, а тры з паловай. Склалі паперы, падрыхтавалі акт... Літаральна ў гэты дзень Лукашэнка заяўляе на сустрэчы з галоўнымі рэдактарамі газет: калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, мусіць разглядацца пытанне пра амністыю ў дачыненні да Бяляцкага. А ўжо на наступны дзень зніклі і мае "злосныя парушэнні", і акт. Як быццам іх і не было. Гэта яшчэ раз паказвае, як працуе адміністрацыйная сістэма ў адносінах да чалавека.

**— А ўвогуле што можаце сказаць пра ўмовы ўтрымання ў турме?**

— Умовы ўтрымання "палітычных" своеасаблівыя. Гэта татальны кантроль, ізаляцыя ад іншых асуджаных... Калі ты жывеш у атрадзе, дзе больш за сто чалавек, але цябе абыходзяць бокам, гэта, мякка кажучы, не вельмі камфортна. А абыходзяць таму, што калі чалавек нават проста пагутарыць з табой аб надвор'і ці пра футбол, то заўтра яго ў атрадзе ўжо не будзе. Калі мяне прывезлі на "зону" ў Бабруйск, то атрад адразу ж ачысцілі ад тых, хто быў падпісаны на "Народную Волю". Маўляў, каб з аднадумцамі не "знюхаўся". Псіхалагічна было складана. Туляўся сам па сабе — не было з кім і загаварыць. А з іншага боку, гэта не самае горшае, што здараецца ў жыцці чалавека. Што датычыцца нейкіх глабальных правакацый, то іх не было. Відаць, кожны палітвязень у іх сядзіць "па сваёй праграме".

**— Нечаму карыснаму турма вас навучыла?**

— У мяне такое адчуванне, што я тры гады прасядзеў па шыю ў брудзе. Зараз трэба будзе адмывацца. Але ў турме я напісаў дзве кніжкі — ва ўсім можна пры жаданні знайсці нешта добрае.

**— Алесь, зараз будзеце працягваць займацца праваабарончай дзейнасцю?**

— Буду ў меру сваіх невялікіх магчымасцяў, бо яны ў беларускіх праваабаронцаў абмежаваныя. Мы ж да гэтага часу незарэгістраваныя. Але я з'яўляюся віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі абароны правоў чалавека, таму працы хопіць. Акрамя таго, працягну займацца літаратурай, бо ў калоніі я пісаў і літаратуразнаўчыя артыкулы, і эсэ. Жыццё працягваецца, работа знойдзецца...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## Сістэма відэасачэння для рэзідэнцыі Лукашэнкі абыдзецца ў мільярд рублёў

### Аплачвацца пакупка будзе з бюджэтных сродкаў.

На сайце дзяржзакупак з'явілася інфармацыя аб тым, што Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкама аб'яўляе таргі праз спрошчаную схему для выбару пастаўшчыка абсталявання відэаназірання і сувязі для аб'екта будаўніцтва "Адміністрацыйны будынак на тэрыторыі ў межах вуліца Арлоўская — праспект Пераможцаў — рака Свіслач". Усім вядома, што гэты будынак — новая рэзідэнцыя Аляксандра Лукашэнкі.

Тэндар быў адкрыты 17 чэрвеня. Прадмет замовы — 1 камплект абсталявання відэаназірання і сувязі коштам у 1 мільярд беларускіх рублёў. Аплачвацца пакупка будзе з бюджэтных сродкаў.

Трэба адзначыць, што гэта далёка не першы тэндар на закупку абсталявання для рэзідэнцыі за бюджэтныя сродкі. У мінулым годзе праводзіліся таргі па выбары пастаўшчыка сталовага посуду, на адзін камплект якога планавалася выдаткаваць 2,54 мільярда рублёў! Былі яшчэ раяль за адзін мільярд рублёў, кнігі на суму 709 мільёнаў рублёў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

## Мяняецца час правядзення парада 3 ліпеня

Парад і тэатралізаванае шэсце ў гонар Дня Незалежнасці 3 ліпеня ў Мінску ў гэтым годзе пройдуць бліжэй да канца дня. Аб гэтым паведаміў міністр культуры **Барыс Святлоў.**

*"Зменіцца час правядзення парада і тэатралізаванага шэсця. Яны пройдуць бліжэй да канца дня, вечарам. У нас атрымаецца цэлы блок мерапрыемстваў, якія будуць ісці адно за адным",* — сказаў міністр. Як і раней, у цэнтры Мінска адбудзецца святочны канцэрт у раёне скрыжавання праспектаў Пераможцаў і Машэрава. Традыцыйна на працягу ўсяго дня розныя святочныя мерапрыемствы пройдуць на іншых пляцоўках ва ўсіх раёнах сталіцы.

Міністр пацвердзіў, што 2 ліпеня ўрачыста адкрыецца новы будынак Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

ФЕСТЫВАЛЬ

## Да Віцебска ў спальным вагоне

Беларуская чыгунка на час правядзення фестывалю "Славянскі базар у Віцебску" па традыцыі прызначыла цягнік міжрэгіянальных ліній бізнес-класа.

*"Цягнік міжрэгіянальных ліній бізнес-класа будзе адпраўляцца са станцыі Мінск-Пасажырскі ў 12.28 і прыбываць у Віцебск у 16.01. Паглядзеўшы канцэрт, госці "Славянскага базару" на гэтым жа цягніку змогуць з Віцебска выехаць ноччу ў 01.44 і быць у сталіцы раніцай у 05.29",* — паведамілі ў прэс-цэнтры Беларускай чыгункі.

Цягнік будзе курсіраваць паміж Мінскам і Віцебскам штодня з 8 па 16 ліпеня. Кошт квіткоў на сядзячыя і плацкартныя месцы — 63.100 рублёў, у купэйны вагон — 87.400, у вагон СВ — 175.100 рублёў (без тарыфных збораў за афармленне праязных дакументаў).

ГАСТРОЛЬ

## Пры поўным аншлагу

*У Парыжы ў рамках Дзён беларускай культуры ў Францыі адбыўся паказ прэм'ернага спектакля Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Пан Тадэвуш" у пастаноўцы Мікалая Пінігіна.*

На сайце беларускай амбасады ў Францыі адзначаецца, што спектакль прайшоў пры аншлагу, яго наведала больш за 600 гледачоў: *"Спектакль прайшоў на беларускай мове з французскімі субцітрамі ў тэатры МС93 у зале імя вядомага расійскага рэжысёра Алега Яфрэмава. Для сцэнічнага ўвасаблення спектакля выкарыстаны пераклад беларускага літаратара Язэпа Семяжона, для транслітэрацыі на французскую мову — пераклад Рабэра Буржуа.*

*Выступленне беларускіх артыстаў было вельмі цёпла ўспрынята французскім гледачом. Публіка на працягу 10 хвілін стоячы авацыямі вітала выступленне беларускага тэатра ў Парыжы".*

ВІНШУЕМ!

## Віктар Шалкевіч — лаўрэат прэміі імя Васіля Быкава

### Прэмію "За свабоду думкі" ўручаюць з 2008 года.

У мястэчка Бычкі Віцебскай вобласці ў гэтым годзе з'ехаліся сотні гасцей і прыхільнікаў творчасці Васіля Быкава. Палітыкі, паслы, музыкі, пісьменнікі, мастакі, журналісты ўшанавалі памяць пісьменніка, якому 19 чэрвеня было б 90 гадоў. Традыцыйна з 2008-га прадстаўнікі руху "За свабоду" на Ушаччыне ўручаюць прэмію Васіля Быкава.

Нагадаем: у мінулыя гады лаўрэатамі станавіліся паэт Рыгор Барадулін, пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, мастак Алесь Пушкін, палітыкі Уладзімір Някляеў і Павел Севярынец, музыканты Лявон Вольскі і Зміцер Вайцюшкевіч.

У гэтым годзе журы, якое складаецца з лаўрэатаў мінулых гадоў, вырашыла аддаць узнагароду барду і акцёру Віктару Шалкевічу, патлумачыўшы, што ў нашым жыцці павінна быць месца не толькі свабодзе думкі, але і гумару.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Как сложилась судьба Виктора Рахманько?

*Лет десять назад был довольно громкий судебный процесс над бывшим руководителем Белорусской железной дороги **Виктором Рахманько.** Интересно знать, как сложилась судьба этого человека? Чем он сейчас занимается, где работает?*

***Игорь Кисляк,***
***Минский район.***



Виктора Рахманько сегодня вполне можно назвать влиятельным человеком. До недавнего времени Виктор Григорьевич жил и работал в Москве. Он входит в совет директоров одной из дочерних компаний "Газпрома" ООО "Газ-Ойл" и возглавляет Управление транспорта Департамента инвестиций и строительства ОАО "Газпром". Не так давно офис управления переехал в Санкт-Петербург, туда из Москвы перебрался и экс-начальник БЖД.

Дело Рахманько на самом деле было резонансным. Его обвиняли по 11 статьям Уголовного кодекса. *"При проверке БЖД были установлены факты нарушения финансово-хозяйственной деятельности, имелись грубые нарушения при строительстве и распределении жилья, необоснованное предоставление торговых льгот коммерческим организациям, злоупотребления при ремонте транспортных средств и поставке топлива",* — информировала тогда пресс-служба прокуратуры. Как прозвучало в суде, в 1999 году в ведомственной гостинице "Экспресс" в самом дорогом номере несколько месяцев бесплатно проживал сын Рахманько. Еще экс-главу БЖД обвинили в асфальтировании дороги к собственной даче за счет местного колхоза "Путь Ленина".

В прессе проходила информация, что, будучи под подпиской о невыезде, Рахманько якобы пытался скрыться и был задержан при попытке к бегству.

Следствие утверждало, что *"некоторые нарушения закона были совершены в компании с руководителями различного ранга".* Поэтому вместе с Рахманько на скамье подсудимых оказались еще и другие люди.

Гособвинитель просил суд приговорить Рахманько к 9 годам лишения свободы с конфискацией имущества. Однако окончательный приговор был гораздо мягче: экс-главу БЖД признали виновным в совершении нескольких преступлений и приговорили к одному году и девяти месяцам ограничения свободы. Освободили Виктора Рахманько прямо в зале суда. Приговор вызвал неоднозначную реакцию в обществе. Однако, как пояснили представители прокуратуры, ко времени вынесения приговора Рахманько полностью возместил государству причиненный ущерб.

Следит ли Рахманько за тем, как сегодня развивается Белорусская железная дорога, и поддерживает ли он отношения с теперешним руководством БЖД — точно не известно. Однако на сайте БЖД до сих пор висит его биография и целая подборка фотографий.

Через пару лет после того, как Рахманько трудоустроился в "Газпроме", на одном из белорусских сайтов появилась заметка о том, как экс-глава БЖД в одном из московских ресторанов праздновал свой юбилей. Написали, что кроме "газовых генералов" на дне рождения были замечены старые друзья Рахманько из Беларуси: экс-ректор БГУ **Александр Козулин,** экс-глава КГБ Беларуси **Леонид Ерин** и даже бывший генеральный прокурор **Олег Божелко.**

"Народная Воля" связалась с Виктором Григорьевичем и попросила его ответить на некоторые вопросы, однако он сказал, что не хочет общаться с журналистами.

*"Мы поддерживаем отношения с Виктором Рахманько, иногда встречаемся*, — рассказал "Народной Воле" экс-ректор Белгосуниверситета **Александр Козулин.** — *Все у него в порядке, работает. В Москву он уехал вместе с женой и детьми. Ему предложили хорошую работу, от которой было бы глупо отказываться. Насколько я знаю, свое имущество в Беларуси он не продавал. Обижен ли Рахманько на белорусскую власть? Мне кажется, у нас мало кто на нее обижается..."*

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

### ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

*Виктор Рахманько родился 24 сентября 1953 года в Новогрудке. Трудовую деятельность начал в 1972 году после окончания Минского железнодорожного училища помощником машиниста тепловоза. После армии поступил в Белорусский институт инженеров железнодорожного транспорта. Окончив вуз, был направлен на станцию Барановичи-Центральные дежурным. На этом отделении проработал до 1994 года, являлся старшим инженером-графистом отдела движения, главным инженером, начальником станции Барановичи-Центральные.*

*С апреля 1994-го по 1998 год возглавлял коллектив Барановичского отделения Белорусской железной дороги.*

*Являлся членом Постоянной комиссии по международным делам и национальной безопасности Совета Республики.*

*Начальником Белорусской железной дороги назначен в ноябре 1998 года, в этой должности проработал четыре года.*

СТОЛИЦА

## Аэроклуба под Минском больше не будет

Новый микрорайон вырастет на месте минского аэроклуба, базирующегося в окрестностях деревни Боровая.

*— В начале этого года на правительственном уровне решен больной вопрос, касающийся месторасположения аэроклуба. Теперь у нас две площадки: музей авиатехники остается на Боровой, а в южной части аэродрома Липки в течение 2—3 лет будет построен новый авиационно-спортивный комплекс Минского аэроклуба,* — рассказал руководитель аэроклуба Николай Мочанский. — *Мы уже разработали генеральный план. Нет сомнений, что этот перспективный проект будет реализован.*

Как известно, в ближайшее время в районе Боровой планируется начать строительство нового микрорайона. Площадка между Уручьем и деревней Валерьяново выделена коммерческому застройщику — группе компаний "А-100". В течение 10 лет здесь планируют возвести 1 миллион квадратных метров жилья и объекты социальной инфраструктуры.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Уладзімір КАРАЧЭЎСКІ:*

# «Кароны я ўжо насіў, і пагоны ў мяне былі розныя...»

*Чаму былы першы намеснік міністра культуры **Уладзімір Карачэўскі** раптам перасеў у крэсла дырэктара тэатра? Выгналі ці сам папрасіўся на волю?*

*Ці праўда, што з былым дырэктарам Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі — вядомым артыстам **Ігарам Сігавым** не працягнулі кантракт менавіта з-за Карачэўскага?*

*Якіх бізнесменаў Карачэўскі сёння запрашае ў РТБД?*

*І хто цяпер ў тэатры галоўны — дырэктар альбо ўсё ж такі мастацкі кіраўнік **Аляксандр Гарцуеў?***

*Уладзімір Карачэўскі шчыра адказаў на пытанні "Народнай Волі".*

**— Уладзімір Міхайлавіч, вы ўжо амаль два месяцы кіруеце тэатрам. Раскажыце нарэшце, чаму сышлі з міністэрства? Гэта было ваша асабістае рашэнне ці вам проста прапанавалі падшукаць іншую працу?**

— Скажу так: цёплае месца не шукаў. І нікога не падседжваў. Таму тыя размовы, якія круціліся ў інтэрнэце... Шчыра кажучы, стаўлюся да іх як да надпісаў на плоце. Бо ведаю, што чысты перад сабой і перад людзьмі.

У савецкі час была добрая практыка, калі чыноўнікі, якія працяглы час адпрацавалі ў міністэрстве, сыходзілі на практычную работу. Гэта выхад у людзі і магчымасць займацца канкрэтнай справай. Я 13 гадоў без адрыву адпрацаваў на дзяржслужбе. Таму ў дадзеным выпадку рашэнне сысці было абдуманым і ўзважаным, але аб усіх нюансах не хацеў бы распавядаць...

**— Калі не сакрэт, наколькі знізіўся ваш заробак?**

— Мне здаецца, ёсць рэчы, якія не павінны агучвацца публічна...

**— Няўжо так шмат плаціць?!**

— Не. Проста лічу, што нават некарэктна казаць, многа ці мала. Мая зарплата залежыць не толькі ад таго, што дасць дзяржава, але і ад таго, колькі заробіць тэатр, які будзе прэміяльны фонд. У дадзеным выпадку пытанне заробку залежыць ад нас усіх, ад нашай выпрацоўкі. Таму калі я хачу падвысіць заробак, то павінен рабіць усё, каб тэатр квітнеў, каб артысты, мастацкі кіраўнік і рэжысёры маглі зарабляць. Тады, магчыма, будзе расці і мой даход. Дзяржава стварыла мне ўмовы для працы і зарабляння грошай, цяпер усё залежыць ад мяне.

**— Вядома, што вы чалавек даволі амбіцыйны. Ці гатовы безумоўна прыняць той факт, што ў любым тэатры галоўны — не дырэктар, а мастацкі кіраўнік? І што РТБД будуць называць не тэатрам Карачэўскага, а тэатрам Гарцуева? Вы павінны здзяйсняць усе ягоныя мары і забяспечваць патрабаванні, а самі пры гэтым заставацца ў цені?**

— Галоўныя ў тэатры — артысты, на якіх прыходзіць глядач. За творчы працэс адказвае мастацкі кіраўнік. У нас з ім падзелены функцыі, кожны мае канкрэтны фронт работы.

Я прывык працаваць у камандзе. І лічу, што дырэктар павінен ствараць умовы для творчасці. Яшчэ адна важная роля дырэктара — займацца іміджам тэатра. Я павінен быць і менеджарам, і імпрэсарыа...

Што тычыцца амбіцый, то калі вы крыху знаёмыя з маім паслужным спісам, то, напэўна, ведаеце: кароны я ўжо насіў, і пагоны ў мяне былі розныя. Калі думаеце, што мне ўсё яшчэ хочацца пацешыць свае амбіцыі, то глыбока памыляецеся. Цяпер мяне цікавіць толькі канкрэтны вынік. І каб не было сорамна за справу, якой займаюся.

**— Ці можаце коратка ахарактарызаваць, у якім стане вам дастаўся тэатр? Фінансавае становішча, гаспадарчыя справы?**

— У цэлым агульнагаспадарчы стан тэатра неблагі. І я ўдзячны сваім папярэднікам Ігару Аляксеевічу Сігаву і Валерыю Данілавічу Анісенку, якія пакінулі мне не толькі нядрэнную гаспадарку, але і выдатны калектыў. Самае галоўнае, што ў РТБД няма расколу і інтрыг.

Усю сваю творчую энергію буду накіроўваць на прывядзенне ў парадак агульнагаспадарчых пытанняў і наладжванне эфектыўной працы кожнага супрацоўніка. Я кажу не пра акцёраў, а пра тых, хто займаецца прасоўваннем тэатра. Трэба, каб кожны максімальна эфектыўна працаваў на сваім месцы.

**— У Купалаўскім тэатры ўжо даўно адмянілі мастацкі савет, стварылі апякунскую раду, у якую ўвайшло нямала ўплывовых і забяспечаных людзей. Вы маеце намер прыцягнуць да тэатра бізнесменаў?**

— Зараз вяду перамовы з шэрагам беларускіх прадпрымальнікаў і думаю, што да новага тэатральнага сезона ў нас таксама будзе рэальная апякунская рада. Акрамя таго, мы плануем актыўна супрацоўнічаць з міжнароднай грамадскасцю, рознымі амбасадамі, у тым ліку і нашымі прадстаўніцтвамі за мяжой.

**— Ці можаце назваць прозвішчы бізнесменаў, якіх хочаце запрасіць у тэатр?**

— Напрыклад, Уладзімір Маркавіч Граўцоў. Ён, дарэчы, сам заўзяты тэатрал. Акрамя таго, мы вядзём перамовы з адным з найбуйнейшых банкаў...

Я лічу, што Тэатр беларускай драматургіі — гэта нацыянальны брэнд, якім трэба ганарыцца і які трэба падтрымліваць.

**— У свой час адна буйная амерыканская кампанія заснавала спецыяльныя прэміі для артыстаў беларускага балета...**

— Я наогул зацікаўлены ў тым, каб наладзіць максімальнае стымуляванне артыстаў, і сарыентаваны на пошук дадатковых пазабюджэтных сродкаў. Хацелася б, каб тое, што зарабляе тэатр, ішло на павелічэнне заработнай платы, а ўсё, што будзе паступаць за кошт апякунскай рады, накіроўвалася на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы, на новыя пастаноўкі.

Мы плануем цесна супрацоўнічаць з Саюзам мастакоў, прыватнымі калекцыянерамі. Хочам праводзіць у тэатры розныя арт-праекты, выставы. Мне здаецца, гэта створыць багемную атмасферу ў тэатры. Адным словам, будзем рабіць усё, каб РТБД стаў яшчэ больш прывабным для гледачоў.

А зласліўцам, якія кажуць, што, маўляў, зараз Карачэўскі разбурыць усё добрае, што было... Прабачце, але я не з вуліцы прыйшоў. Маю адпаведную адукацыю. Я музыкант, рэжысёр святаў, скончыў Акадэмію кіравання. І сам калісьці вырас з гэтай сістэмы і ведаю спецыфіку працы знутры. З творчымі людзьмі, як мне здаецца, агульную мову знаходзіць магу. І ва ўсім прытрымліваюся прынцыпу: *"Не нашкодзь!"*



У ТЭМУ

*Аляксандр ГАРЦУЕЎ:*

## «У нашым тэатры ёсць група вар'ятаў...»

*Вядомы рэжысёр **Аляксандр Гарцуеў** шчаслівы, што лёс падарыў яму магчымасць узначаліць РТБД.*

— Я скажу так: нават калі б мне прапанавалі абсалютную ўладу ў тэатры, я, напэўна, ад яе адмовіўся б, — *гаворыць мастацкі кіраўнік РТБД.* — Я не ўмею здабываць грошы і імі распараджацца. Я магу ставіць спектаклі, размаўляць з артыстамі і рабіць мастацкі прадукт. І зусім не ўмею рабіць камерцыю. Абсалютна шчыра кажу: пагарэў бы тэатр, калі б я быў і дырэктарам, і мастацкім кіраўніком! Таму мне быў патрэбны чалавек, які можа гэта рабіць прафесійна.

Мы амаль два месяцы працуем разам з Уладзімірам Карачэўскім, і я не адчуў ніякіх памкненняў дырэктара пакіраваць мастацтвам. Са свайго боку таксама не лезу ў фінансавыя пытанні краўніцтва тэатра. Мы проста робім адну справу, не замінаючы адзін аднаму. Увогуле, для мяне ідэальная формула тэатра такая: рэжысёр з акцёрамі робяць выдатныя, бліскучыя спектаклі, а дырэкцыя тэатра выплачвае ім вялікія грошы. Думаю, да гэтага мы і рухаемся *(усміхаецца).*

У нас вельмі добры калектыў. Не ведаю, дзе яшчэ знайсці такіх людзей, якія ў вольны ад працы час ідуць займацца балетам і вакалам. Пры тым што іх ніхто не прымушае гэта рабіць! Не скажу, што так робіць уся трупа, але вельмі вялікая частка. Я іх называю *"група вар'ятаў*". Дух студыйнасці, які захаваўся ў гэтым маладым калектыве, для мяне нават дзіўны. Калісьці нешта падобнае было ў гады маёй маладосці у Купалаўскім тэатры. Але калі людзі ў 35, 40, 45 гадоў стаяць ля балетнага станка, разам з выкладчыкам па вакале размінаюць голас — гэта выклікае ў мяне павагу. І пакуль такія асобы будуць існаваць — тэатр будзе жыць!

Я вельмі рады, што лёс даў мне магчымасць узначаліць гэты малады, творчы калектыў. Думаю, нас чакаюць цікавыя перспектывы...

**Марына КОКТЫШ.**

ЛЮБОПЫТНО

## Молодежи и пенсионеров в Беларуси почти поровну

*В Национальном статистическом комитете Беларуси сообщили, что каждый четвертый белорус относится к категории "молодежь", т.е. находится в возрастной группе от 14 до 31 года.*

Правда, специалисты оговариваются: в разных странах существуют различные подходы к определению понятия "молодежь". По определению ООН, молодежью принято считать людей в возрасте 15—24 года. У нас в Беларуси к этой категории относятся лица в возрасте от 14 до 31 года. Их на 1 января текущего года проживало в стране 2 млн 185,2 тысячи человек.

Стоит отметить, что почти столько же в Беларуси проживает и пенсионеров. Даже немного больше. На 1 января получателей пенсии в нашей стране было 2 млн 537,3 тыс. человек.



Народная Воля
http://www.nv-online.info
24 ЧЭРВЕНЯ 2014 г.

АСОБА

# «Машэраў бярэ Брэжнева пад руку. Тут падскокваю я і бяру генсека з іншага боку»

*Якое дзіўнае ўражанне рабіў Караткевіч пры знаёмстве, што ўяўляў сабой таленавіты Пазьняк у маладосці і якім самадурствам вылучаўся Машэраў — вядомы фотамастак* ***Георгій Ліхтаровіч*** *распавядае пра свой лёс і сустрэчы са знакавымі постацямі.*

— Пасля войска я ўладкаваўся ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. На працу мяне прымаў Пятро Глебка. Шмат цікавых людзей сустрэў там, шмат цікавых вандровак было. Працаваў з Валянцінай Нікіцінай. Неяк чую: яна выйшла замуж, стала Караткевіч. А ці той гэта Караткевіч? Той.

**— Якое ўражанне пісьменнік зрабіў на вас пры знаёмстве?**

— Першае ўражанне было ў мяне даволі дзіўнае. На той момант было надрукавана "Дзікае паляванне караля Стаха" і "Чазенія". Апошняя мне вельмі спадабалася — па рамантычным настроі і ўзнёслым, шчымлівым каханні. І я, напэўна, уявіў Караткевіча героем "Чазеніі" Севярынам Будрысам, магутным атлетам.

І вось збіраецца сабантуйчык у сектары збору помнікаў. Я трохі спазніўся, пастукаўся паролем, мне адчынілі. Сеў з краю ля накрытых сталоў. Узнялі чаркі, а потым даюць слова Караткевічу. Гляджу: узнімаецца мужчынка, адзін плячук ніжэй, другі вышэй, трохі акруглы, трохі нязграбны, трохі з пузікам ужо. І неяк гэта так не супала з намаляваным у маёй галаве вобразам...

Безумоўна, я пасля смяяўся з сябе. Мы сталі аказвацца ў адных з ім кампаніях, я бываў у іх дома і зразумеў, што Караткевіч цудоўны суразмоўца. Любую тэму мог падтрымаць з калёс і даць затраўку для іншай. Не магу сказаць, што мы з ім сябравалі, але бачыліся, дзякуй богу, шмат. Цяпер кусаю лакаткі, думаю, што, можа, і мала да іх заходзіў: і тое не спытаў, і тое не выказаў...

Дарэчы, у яго на сцяне мой здымак вісеў. У 1969 годзе на Берасцейшчыне падчас нашай першай экспедыцыі па зборы помнікаў зрабіў кадр царквы ў вёсцы Дубок. Сонца садзілася і прабівалася да царквы скрозь крыжы. Падыходзіць да мяне Валянціна Браніславаўна: можаш мне надрукаваць гэты кадр буйным памерам?

Аказалася, Караткевіч зайшоў да яе ў лабараторыю, дзе рабілі анатацыі да здымкаў, убачыў гэты кадр і захацеў яго займець.

**— Смерць Валянціны Браніславаўны ад анкалогіі стала нечаканасцю?**

— Анкалогія нечаканай не бывае. Калі яна адыходзіла, Караткевічу вельмі кепска было. Бывае, жонка і жонка, а без Валянціны Браніславаўны, магчыма, напоўніцу і не здарыўся б той Караткевіч, якога мы ведаем. Адносіны ў іх былі цудоўныя. Хаця маглі і папікіравацца. Валянціна Браніславаўна жартам называла яго "чорным аспідам" (*ядавітай змяюкай.* — **Рэд.**).

**— Уладзімір Сямёнавіч пайшоў з жыцця праз год пасля жонкі.**

— Безумоўна, яе смерць сказалася. Апошняя наша сустрэча здарылася на рагу вуліц Маркса і Энгельса. Размова ў яго ўжо не ішла, не клеілася. Запомніў толькі яго апошні жарт: "Глядзі якая дзіўная рэч: у Тэатры лялек дырэктар Ляляўскі". І пасля гэтага: "Усё, бывай". Я чамусьці стаяў і глядзеў яму ўслед.

**— Адам Глобус, які быў суседам Караткевіча, не аднойчы расказваў, як той сыходзіў у страшныя запоі.**

— У мяне да Глобуса і яго баек сваё стаўленне. Ён не бясталентны чалавек, але месцамі любіць пamастацку перабольшыць. Я, напрыклад, не бачыў, каб Караткевіч напіваўся да свінячага віску. Сустракаў нападпітку — так, бывала. Вясёлым — так, бывала. Але ў свінскім выглядзе — ніколі. Размаўляў з людзьмі, якія часцей бывалі ў Караткевіча, чым я. Запояў яны таксама не назіралі.

**— З Зянонам Пазьняком вы былі знаёмыя перш за ўсё як з фатографам?**

— Так. Зноў жа 1969 год. Ён быў аспірантам у Інстытуце мастацтвазнаўства. А паколькі ён быў фатографам, то не абмінуў дзверы з надпісам "Фоталабараторыя" і пастукаўся да мяне з нейкімі патрэбамі.

На мой погляд, Зянон быў самым таленавітым фатографам на той час. Каб зразумець гэта, дастаткова пагартаць яго фотаальбом "Браслаўшчына" 1970 года. Калі я гартаў тое, што выйшла ў яго за мяжой, то зразумеў, што ён змог вывезці адсюль далёка не ўсё. Ён не мае ў архіве тых здымкаў, што я бачыў на выставах у 1970-х. Шкада, бо здымкі былі моцныя.

На жаль, і ў мяне шмат не захавалася. Рыхтаваў выставу і аддаў усё лабаранту, каб ён зрабіў кантрольныя адбіткі. Прыходжу праз два тыдні і бачу, што ён не ведае, куды вочы падзець. Аказалася, у лабараторыі прабіла трубу з гарачай вадой і ўсе мае негатывы (адборныя!) ляснуліся. Вось так.

**— Якім Зянон быў у маладосці?**

— У нармальнай размове ён вельмі мяккі чалавек. Вельмі разважлівы і, я б сказаў, месцамі нават няўпэўнены. Але гэта ў прыватных размовах, і калі ён яшчэ не выпрацаваў свайго пункту гледжання. Жорсткасць у голасе з'явілася ў яго значна пазней, калі ён пачаў займацца палітыкай. І гэта трошачкі напускное, мне здаецца. Калі сустракаеш агрэсіўна паслухмяную большасць, там сам па сабе голас павінен стаць жорсткім, інакш з імі немагчыма размаўляць. Да таго ж яны інакш не разумеюць.

Калі пачынаеш мякка з імі размаўляць, яны ўспрымаюць гэта як тваю слабасць. Вось як Шушкевіча зжэрлі. Як толькі ён пачаў з імі згоду шукаць, зграя адчула: важак слабы, можна зжэрці. І зжэрлі.

Шушкевіч, на жаль, не разумеў ісціны: што першы будзе казаць, тое астатнія будуць выконваць і яшчэ пабягуць наперадзе цягніка. А ён, як інтэлігентны чалавек, стараўся ўлічваць інтарэсы розных бакоў.

**— Пасля Інстытута мастацтвазнаўства вы перайшлі ў выдавецтва "Беларусь", дзе сталі аўтарам многіх вядомых фотаальбомаў. Што за савецкім часам было найбольш складаным пры падрыхтоўцы такіх прац?**

— Зацвердзіць тое, што ты зрабіў. Шмат кніжак насілі ў ЦК, а там сядзелі такія монстры, як, напрыклад, загадчык аддзела агітацыі і прапаганды Савелій Яфімавіч Паўлаў. Фактычна ён кіраваў друкам, баяліся яго страшна. Памятаю, як панеслі на зацвярджэнне фотаальбом "Мінск". На адным са здымкаў была панарама з Чырвоным касцёлам, дзе тады месціўся Дом кіно. Паўлаў абазваў яго кірхай. "Як гэтую кірху не знеслі, трэба было яе даўно разваліць!".

Шмат кніжак калечылася, як, напрыклад, "Памяць зямлі беларускай", да якой Караткевіч напісаў прадмову, а я зрабіў шмат здымкаў. Калі гатовы макет панеслі ў міністэрства на зацвярджэнне, там пачалі вылічваць працэнт помнікаў вайны і працэнт храмаў — і прыйшлося дадаваць "солдат коленопреклоненных".

**— Вы расказвалі нам пра п'яніц, якія трапілі ў фотаальбом "Мінск". Сведкам якіх яшчэ смешных выпадкаў вы былі?**

— Мой гатовы фотаальбом "Гродна" доўга не выходзіў, бо стары помнік Леніну ў горадзе разбурылі, а новы яшчэ не пабудавалі. А без здымка Леніна якое Гродна?! З-за гэтага шэдэўра альбом не выпускалі.

**— Лукашэнку нельга здымаць ззаду… А як нельга было здымаць Машэрава і Брэжнева?**

— Па Машэраву забарон ніякіх не было. Ён мог з'явіцца нечакана і без аховы. Неяк я здымаў Ратамку, дзе ішлі спаборніцтвы. Паварочваю галаву — ідзе Машэраў. Павіталіся, я яму ўжо вочы намазоліў на здымках, пазнаваў мяне.

Пазней яго постаць пачалі трохі ідэалізаваць. Безумоўна, ён не дурны чалавек быў. Але хапала ў яго і глупства, і самадурства. Памятаю семінар па кармах, дзе ў прыклад ўзялі Гродзенскую вобласць. Увесь рэгіён тыдзень стаяў на вушах. Машэраў сагнаў на семінар, напэўна, не менш за 600 чалавек: міністраў, старшыняў камітэтаў, выканкамаў. На шыкоўных інтурыстаўскіх "Ікарусах" яны гойсалі па навакольных вёсках, дзе былі вылізаны кароўнікі, пафарбаваны трактары, папырсканы дэзадарантам даяркі. Нічога карыснага вынесці з гэтай паказухі было немагчыма.

І ў кожнай гаспадарцы быў накрыты стол з закусонам — нягледзячы на тое, што ўдзельнікі семінара тройчы на дзень сілкаваліся ў Гродне. У адной вёсцы Машэраў паглядзеў на гадзіннік і кажа: "Что-то мы, товарищи, задерживаемся. Наверное, поблагодарим хозяев и откажемся от угощения". Такі гоман узняўся! Было ўражанне, што Машэрава тут перавыберуць: "Как?! А перекусить?!"

У іншай гаспадарцы, калі Машэраў выходзіў з ангара, рыпнулі дзверы. Вялікія і жалезныя. Машэраў да іх, узяўся, пахістаў: "Железные... Это же сколько железа пошло на них!" (Па-беларуску ён на маёй памяці пару разоў толькі прамаўляў — з нагоды юбілеяў класікаў.) І божа мой, пасля ўся світа за ім кранала гэтыя дзверы: так, цяжкія, гэта дрэнна, колькі металу загублена...

А Брэжнева нельга было здымаць з таго боку, дзе ў яго каля вуха вісеў слыхавы апарат. Мне прыйшлося яго фатаграфаваць, калі ён вешаў зорачку на грудзі Машэрава ў Мінску. У цягніку Брэжнева, відаць, так нашпігавалі лекамі, што ён выйшаў на вакзале ніякім. Сеў у лімузін з адчыненым акенцам на Прывакзальнай плошчы, я на яго нацэліўся, думаў, можа, хоць рукою памахае. Але ён як сеў, так 5 хвілін да ад'езду і прасядзеў, як лялька, не варушыўся. Так я нічога і не зняў.

Пасля абеду іду ў ЦК, дзе павінны вешаць Машэраву зорачку Героя Сацыялістычнай Працы. Заходжу, а ў спісе маё прозвішча выкраслена, не прапускаюць! Відаць, ахова з Масквы вырашыла, што ад адной канторы аднаго фатографа дастаткова. Мой калега Саша Манцветаў (мы з ім фактычна пабудавалі сучасную фотаслужбу ў Дзяржкамвыдаце) ужо прайшоў наверх, а неабходная стужка для лямп напальвання засталася ў мяне. Што рабіць? Не будзе ж каляровых здымкаў!

Пасля Саша расказваў, як гэта выглядала з верхняга паверха, дзе ён кідаўся, як паранены звер. Пад'язджае картэж. З задніх дзверцаў выходзіць Машэраў, адчыняе пярэднюю, бярэ пад руку Брэжнева. Тут падскоквае Ліхтаровіч, бярэ генсека з іншага боку, і яны ўтрох ідуць у ЦК...

Гэта, безумоўна, гіпербала. У мяне была адзіная магчымасць прабрацца на цырымонію. Я прыстроіўся да ўваходзячых Машэрава і Брэжнева і пачаў іх здымаць. Бакавым зрокам заўважыў, як у таго, хто мяне не прапусціў, аж вочы на лоб лезуць. Але перашкаджаць ён не наважыўся: раптам я лепшы сябар Машэрава?

**— Ці правільна я разумею, што вы гатовы расстрэльваць за слова "фоткаць"?**

— (*Смяецца.*) Расстрэльваць — гэта, канешне, занадта. Але не падабаецца мне гэтае слова з-за зняважальнага стаўлення да працэсу. Здымаць, фатаграфаваць — кажыце, як заўгодна, але толькі не "фоткаць".

У нашы часы чалавек ішоў да гэтай прафесіі па прыступках і на кожнай з іх павінен быў нешта засвоіць. Не мог перайсці на іншую прыступку, калі не засвоіў фізіку, хімію, оптыку. А зараз чалавек купіў фотаапарат — і ён фатограф. Бо сучасны здымач тэхнічную частку робіць за чалавека цалкам, ніякіх праблем са стужкамі, праяўкай, светаадчувальнасцю. Застаецца толькі творчасць, тое, з чаго пачынаецца мастацтва.

Калі я ўжо пачаў нешта націскаць на фотаапараце, пачаў друкаваць здымкі, то паехаў з бацькам у Налібоцкую пушчу па яго партызанскіх мясцінах. Бацька зрабіў некалькі здымкаў, і калі іх праявілі, то я з жахам заўважыў, што бацькавы здымкі лепшыя за мае. Нават было пачуццё крыўды. А пасля ўжо дайшло, што бацька — мастак, што бацька разумее кампазіцыю, што бацька разумее святло.

**— Як вы лічыце: ці павінен творчы чалавек выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю?**

— Гэта прыватная справа кожнага. Нейкага рэцэпта няма. Я толькі ўпэўнены, што творчы чалавек не можа быць абыякавым. Неяк Васіль Якавенка папрасіў паездзіць з ім па пісьменніках, сабраць подпісы пад лістом у абарону беларускай мовы. Мая справа была тэхнічная — кіраваць машынай.

І вось трапілі да Янкі Брыля. "Прывітанне, што там у вас, давайце пачытаю". Брыль сеў, пачытаў, зрабіў некалькі правак і падпісаў. "А зараз, Георгій Леанардавіч, пра вашу кніжку". У мяне тады першая кніжка выйшла. І ён, не гледзячы, дастае мой зборнік. "Я ў адрозненне ад маіх сяброў-літаратараў кніжкі, падораныя мне, чытаю".

Следам паехалі на лецішча да Шамякіна. Сядзеў, чытаў (а ліст быў кароткі). "Ну што вам сказаць, хлопцы, можа, і не трэба нам так уладу... Сэнсу ад гэтага не будзе, ну што мы... А вы ведаеце, як мяне ашукалі на кінастудыі: недаплацілі 10 тысяч... А колькі ж у мяне на ашчаднай кніжцы было — на 10 "Волгаў" было!". Карацей, перайшоў ён на свае згубленыя грошы і так і не падпісаўся пад зваротам.

Вось дзве пазіцыі двух народных пісьменнікаў.

**— Чаму вы свае першыя вершы пайшлі паказваць Барадуліну?**

— Калі ў мяне пачаліся вершы (да фотаальбома "Добры дзень, Беларусь!"), то вышэйшага суда, чым Барадулін, для мяне не існавала. Панёс я іх да яго з адной просьбай: калі гэта вершы, то нешта парайце, калі не вершы — у сметнік іх і на гэтым скончым.

Праз дзень Барадулін тэлефануе: "Ведаеце, вершы, вершы. Прыходзьце". Ён нешта параіў, а пасля накрэсліў на аркушы маё імя і пайшоў пісаць фактычна ўласны верш, які абапіраўся на мой. Я сказаў: дзядзька Рыгор, я гэта ніяк не магу выкарыстаць, бо гэта ваша. "Не-не, гэта ўсё ваша, я толькі тэхнічныя праўкі зрабіў". Але як я мог выкарыстаць яго верш?

Я быў адным з тых, хто ўдзельнічаў у "тайнай вячэры" па вылучэнні Барадуліна на Нобелеўскую прэмію. Лічу, што ён не атрымаў яе толькі з-за нізкай якасці перакладаў. Шчыра кажучы, нават на рускую мову былі вельмі слабыя пераклады. Узяўся было перакладаць ужо сам, хацеў паказаць дзядзьку Рыгору, але не паспеў. Хацеў як мага больш зрабіць. Нельга адцягваць, трэба рабіць усё своечасова.

**— Рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў вам даваў, у тым ліку, Генадзь Бураўкін.**

— Знаёмыя мы былі яшчэ з 1970-х. Але што там: ён — рэдактар часопіса "Маладосць", а я — пацан.

У мяне на тэлебачанні працаваў знаёмы хлопец Толя Сцяпанаў, які пасля стаў галоўным аператарам. І ён мне неяк расказвае: "Ты знаешь, Буравкин к нам пришел. Я захожу к нему со своими вопросами, начинаю рассказывать, а он мне говорит: "Я па-руску не разумею". Толя на гэта такі раз'юшаны быў, такі раззлаваны *(смяецца).*

Але потым, калі мы з Толем размаўлялі, ён казаў: якія цудоўныя ў нас перадачы! Той час Бураўкіна на тэлебачанні — залаты век. Колькі ўзнікла перадач і асоб! Сапраўдная шчырасць таленту — гэта не толькі песціць свой талент, дадзены табе Богам, але заўважаць і іншыя таленты. І не падножкі ім ставіць з-за зайздрасці, а даваць ім магчымасці развівацца, дапамагаць нечым.

**— Што вас засмучае ў сённяшнім жыцці?**

— Засмучае адно: калі я жыў пры Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, калі я жыў пра Мікіту Сяргеевічу Хрушчову і г.д. па спісе да апошняга кіраўніка нашага — я быў перакананы, што нешта можа змяніцца. Яны ўсе былі старэйшыя за мяне, і я ведаў, што фізічна іх перажыву. А гэты ж — маладзейшы за мяне.

Яшчэ шмат чаго назбіралася са здымкаў. Але як выдаць? Трэба шукаць спонсара, а я не ўмею.

**— Чаго вам сёння найбольш хочацца?**

— Жыць. Свае 60 год я сустрэў у рэанімацыі: у мяне быў інфаркт. Калі пачаў вяртацца на гэты свет, першая думка была: раз тут пакінулі, значыць, яшчэ не ўсё зрабіў. Гэтай думкай і жыву. Хаця і там кампанія вельмі прыемная сабралася — шмат добрых сяброў.

**Руслан ГАРБАЧОЎ.**
*(Салідарнасць.)*








МОЗАИКА

## В Лиге чемпионов БАТЭ сыграет с командой из Албании

*Соперником борисовского БАТЭ во втором квалификационном раунде Лиги чемпионов по футболу стал албанский "Скендербеу".*

Жеребьевка первых двух квалификационных раундов прошла вчера в штаб-квартире УЕФА в швейцарском Ньоне.

Первый матч второго раунда квалификации между БАТЭ и "Скендербеу" пройдет в Борисове 15 или 16 июля.

БАТЭ будет играть в Лиге чемпионов восьмой сезон подряд. Дважды борисовчане участвовали в групповой стадии.

## Минское «Динамо» вышло в лидеры

*БАТЭ утратил лидерство по итогам 14-го тура футбольного чемпионата страны.*

В минувшие выходные борисовский клуб сыграл на своем поле с "Гомелем" вничью 0:0. На первое место вышло минское "Динамо", которое разгромило дома "Шахтер" — 3:0.

Остальные результаты тура: "Нафтан" (Новополоцк) — "Неман" (Гродно) — 2:0, "Торпедо-БелАЗ" (Жодино) — "Днепр" (Могилев) — 2:1, "Динамо" (Брест) — "Белшина" (Бобруйск) — 2:2, "Слуцк" — "Минск" — 2:0.

Положение команд: "Динамо" (Мн) — 32 очка, БАТЭ — 31, "Нафтан" — 28, "Торпедо-БелАЗ" — 22, "Гомель" — 22, "Шахтер" — 20, "Минск" — 16, "Неман" — 16, "Слуцк" — 13, "Белшина" — 10, "Днепр" — 10, "Динамо" (Бр) — 10.

Следующий тур пройдет 28—30 июня: "Шахтер" — "Нафтан", "Неман" — "Днепр", "Динамо" (Бр) — "Торпедо-БелАЗ", "Минск" — "Динамо" (Мн), "Белшина" — БАТЭ, "Слуцк" — "Гомель", сообщает БелаПАН.

## «Брестские зубры» покоряют Европу

*Бейсбольная команда "Брестские зубры" выиграла квалификационный турнир Кубка Европы.*

Это крупнейшая победа на международной арене за всю историю бейсбольного клуба.

В турнире помимо брестчан приняли участие клубы из Словакии, Литвы, Польши и Австрии.

В финальной игре "Брестские зубры" со счетом 9:3 обыграли клуб "Метростарс" из Вены.

ШАШКІ

## Мемарыял Гелера

Турнір памяці таленавітага мінчаніна ладзіўся па шашках-64. Па-за канкурэнцыяй у ім быў міжнародны гросмайстар з Гомеля Яўген Кандрачэнка: ён запісаў на свой рахунак 17 ачкоў з 18 магчымых. Ажно на тры ачкі (!) адстаў ад яго другі прызёр — малады майстар спорту А.Куніца. Па 12 ачкоў набралі кандыдат у майстры М.Семянюк, гросмайстар А.Плакхін, майстар В.Валюк і міжнародны майстар Д.Фадзееў.

Паглядзіце, як вынаходліва пераможца кіраваў белымі фігурамі ў партыі супраць міжнароднага майстра І.Міхальчанкі ў дэбюце а3а5 f6b4 "лятаючых шашак" (бліц-2011): 1.gh4 ba3 2.hg3 gf6 3.gf4 fe5? 4.fg3 ed4 5.c:e5 hg5 6.f:h6 d:h2 7.ef2 hg7 8.bc3 gf6 9.cd4 bc5 10.d:b6 a:c5 11.ab2 cd6 12.bc3 (гл. дыяграму).

12...ba7 (12...de5 13.hg5! fh4 14.hg7 fh6 15.ed4x) 13.cb4! fe5 14.dc3 ef6. Прадоўжыце барацьбу самастойна. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

## Вучоны і спартсмен

Імя Пятра Матуса добра вядома ў навуцы і спорце. Ён доктар навук, прафесар, намеснік дырэктара Інстытута матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І ў той жа час — майстар шашачнай кампазіцыі, першы чэмпіён краіны па ёй ў раздзеле задач-100. Іх прыхільнікі стварылі сімвалічны клуб, які назвалі імем Пятра Матуса. Прыемна адзначыць, што гэты таленавіты, няўрымслівы чалавек выпусціў кнігу пра сваё захапленне, у якой прывёў шмат канкрэтных прыкладаў. Пазнаёмцеся з адным з іх:

**Белыя**: 12, 17, 22, 30, 31, 32, 40, дамкі 3, 6, 25, 46, 47 (12). **Чорныя**: 11, 15, 21, 29, 39, 42, 43, дамкі 26, 38 (9). Замкнуць простую чорных: 32-27 (37А) 34, 11-7, 7, 8, 20, 22-18, 48, 49#. А(32) 34, 41, 3-20, 1, 37, 16#.

Жадаючыя набыць кнігу могуць атрымаць адпаведную даведку ў аўтара па тэлефоне (37517) 2714440 ці праз электронны адрас: piotr.p.matus@gmail.com.

## Міжнародны конкурс

Ён праводзіўся па кампазіцыі ў шашкі-64 пад назвай "Беларусь-2013". Згодна з канчатковымі вынікамі, прызавыя месцы заваявалі: у раздзеле задач — творы майстроў 1.А.Ляхоўскага (Жодзіна), 2.М.Зайцава (Баранавічы), 3—4.А.Ляхоўскага і ўкраінца У.Рычкі, у жанры камбінацыйных дамачных праблем — 1.Б.Іванова (Мінск), 2.А.Ныча (Украіна) і 3.Д.Камчыцкага (Магілёў), у намінацыі звычайных праблем — 1.А.Саўчанкі (Украіна), 2.міжнароднага майстра П.Шклудава (Наваполацк) і 3.А.Саўчанкі.

## Праверце рашэнні

**"Замежныя наведвальнікі"**: №1 (А.Палявы, Ізраіль) у сааўтарстве з М.Грушэўскім (Беларусь) — b8, h2, f2, a1, d4 (h2) g1#.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871. Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14048

Падпісныя індэксы: 63222 — для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 — для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 03.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.06.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №2338.